Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Ўчота БССР

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 8-9 (34-35)

ЖНІВЕНЬ-ВЕРАСЕНЬ 1935 г.

МЕНСК — 1935

# I. АФЇЦЫЙНЫ РАЗДЗЕЛ

## Пастанова № 1129

## Совета Народных Камісараў БССР

*22-га ліпеня 1935 г.* *г. Менск*

**Аб апрадзяленні ўраджайнасці і валавога збора льна-даўгунца і бульбы на 1935 год**

У адпаведнасці з пастановай СНК СССР ад 19/VI-1935 года № 1245, Совет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Апрадзяленне размераў ураджайнасці і валавога збора бульбы ўскласці на Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Учота БССР, а па льну-даўгунцу на Упаўнаважанага Цэнтральнай Дзяржаўнай Камісіі па вызначэнню ўраджайнасці.

2. Абавязаць НК Земляробства, с/г. трэсты НК Соўгасаў і НК Земляробства, Белкаапсаюз, а таксама гаспадаркі нарка-матаў і ОРС-аў своечасова прадстаўляць у Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Учота звесткі аб відах на ўраджай па льну-даўгунцу і бульбе ў раённым разрэзе, з неабходнымі тлумачэннямі.

3. Абавязаць Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Учота правесці ў выбарачным парадку кантрольныя вымярэнні ўраджаю ўказаных культур: у 175 калгасах льна-даўгунца і ў 125 калгасах бульбы.

4. Надаючы вялікае гаспадарча-палітычнае значэнне справе правільнага апрадзялення ўраджайнасці льна і бульбы—абавязаць старшынь РВК, загадчыкаў Райза і дырэктароў МТС аказаць максімальную дапамогу органам народна-гаспадарчага ўчота ў арганізацыі правядзення кантрольных вымярэнняў ураджаю гэтых культур, у прыватнасці:

а) неадкладна падабраць неабходную колькасць палітычна-правераных і тэхнічна-падрыхтаваных работнікаў для правядзення кантрольных работ у калгасах, забараніць вылучаных і праінструктаваных работнікаў замяняць новымі на ўвесь час работы;

б) правесці інструментальны абмер пасеўных плошчаў льна-даўгунца ў калгасах, дзе будзе праводзіцца кантрольнае вымярэнне, за рахунак Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Учота;

в) правесці ў гэтых калгасах шырокую растлумачальную работу аб мэтах і задачах правадзімага вымярэння ўраджаю льна і бульбы.

5. Абавязаць НК Земляробства вылучыць у раёнах спецыялістаў льнаводаў для кансультацыі работнікаў, якія будуць прavадзіць кантрольныя вымярэнні ўраджаю льна, па тэхналагічным працэсам апрацоўкі льна ў калгасах.

6. Абавязаць дырэктароў трэстаў льнозаводаў забяспечыць перапрацоўку на заводах звезеных проб з калгасаў у тэрміны па ўзгадненню з органам Народна-Гаспадарчага Учота.

7. Папярэдні разгляд і праверку ўсіх справаздачных і кантрольных звестак аб ураджайнасці і валавым зборы бульбы ўскласці на нараду, пад старшынством начальніка Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Учота з удзелам Народнага Камісара Земляробства і Упаўнаважанага Камітэта загатовак.

Старшыня Совета Народных
Камісараў БССР *М. Галадзед.*

Кіраўнік спраў Совета
Народных Камісараў БССР *І. Лук'янчык.*

---

**Народнаму Камісару Фінансаў БССР—т. Кудзелько**
**Кіраўніцтву Наргасучота БССР—т. Владзімірскаму.**

По хадайніцтву НКФ БССР ад 1/VII-35 г. аб дазволе затрэбаваць ад Райфа разовую справаздачу аб выданых прыватным асобам рэгістрацыйных пасведчанняў (патэнтаў) на дробны гандаль, Кіраўніцтва Спраў СНК БССР паведамляе, што Старшыня СНК БССР т. Галадзед згодзен з прапановай НКФіна БССР аб разавай справаздачы па паказанаму вышэй пытанню.

Кіраўнік Спраў СНК БССР *Лук'янчык*

23 Ліпеня 1935 г.
№ 185.

---

## Пастанова № 540

## Цэнтральнага Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Ўчота Дзяржплана Саюза СССР

*16 ліпеня 1935 г.*

Некаторымі арганізацыямі (прадпрыемствамі і будаўніцтвамі) ўстаноўленая для іх бягучая месячная справаздачнасць прадстаўляецца не за календарныя месяцы, а за праізвольна вызначаныя імі перыяды, напрыклад, за 30 дзён, за перыяд ад 25 па 25 чысло і г. д.

У звязку з тым, што гэтыя адступленні ад календарных месячных перыядаў парушаюць адзінства справаздачнасці, падаўжаюць зацверджаныя урадам тэрміны прадстаўлення справаздачнасці і ў шэрагу выпадкаў робяць немагчымым атрыманне правільных адчотных даных (калі апошнія прыўрочаны да календарнай працяжнасці месяца)—ЦУНХУ Дзяржплана СССР пастанаўляе:

1. Абавязаць усе арганізацыі (прадпрыемствы, будаўніцтвы, установы), для якіх устаноўлена месячная справаздачнасць, прадстаўляць яе за календарныя месячныя перыяды.

2. Арганізацыям, якімі былі ўстаноўлены справаздачныя перыяды, адрозныя ад календарных месяцаў, пачынаючы з ліпеня г. г. перайсці да прадстаўлення справаздачнасці за календарныя месяцы.

Нам. Начальніка ЦУНХУ
Дзяржплана Саюза ССР *Папоў*

---

# Пастанова № 581

## Цэнтральнага Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Ўчота Дзяржплана СССР

*Масква* *8 жніўня 1935 г.*

У сувязі з неабходнасцю тэрміновага ізгатаўлення пагаспадарчых кніг для сельсоветаў на 1936 год з тым, каб забяспечыць снабжэнне імі сельсоветаў да пачатку кампаніі па мясапастаўкам 1936 года, ЦУНХУ Дзяржплана СССР пастанаўляе:

1. Зацвердзіць узгодненыя з наркаматамі і атрымаўшыя адабрэнне з боку УНХУ і рада сельсоветаў наступныя агульныя формы первічнага ўчота ў сельсоветах:

а) журнал учота асноўных вытворчых паказчыкаў калгаса і выканання ім абавязацельстваў перад дзяржавай у 1936 г. (форма № 1);

б) пагаспадарчая кніга асноўных вытворчых паказчыкаў гаспадарак калгаснікаў і выканання імі абавязацельстваў перад дзяржавай на 1936 г. (форма № 2);

в) пагаспадарчая кніга асноўных вытворчых паказчыкаў гаспадарак аднаасобнікаў і выканання імі абавязацельстваў перад дзяржавай на 1936 г. (форма № 3);

г) пагаспадарчая кніга асноўных вытворчых паказчыкаў гаспадарак рабочых, служачых і іншых груп насельніцтва (акрамя калгаснікаў і аднаасобнікаў) на 1936 г. (форма № 3-а).

2. Абавязаць Саюзоргучот разаслаць узоры зацверджаных форм пагаспадарчых кніг усім край і обл. выканкомам, край і обл. УНХУ і сваім аддзяленням не пазней 13 жніўня г. г.

3. Абавязаць УНХУ і аддзяленні Саюзоргучота безадкладна атрымаць заказы ад СНК рэспублік, не маючых краявога і абласнога дзялення, і ад край і обл. выканкомаў на ізгатаўленне пагаспадарчых кніг і скончыць выкананне гэтага заказа за рахунак рэспубліканскіх фондаў і сродкаў не пазней 15 верасня, пасля чаго безадкладна разаслаць кнігі ў раёны.

4. Начальнікам УНХУ вельмі дасканала прапрацаваць разам з оргаддзеламі выканкомаў разнарадку размеркавання пагаспадарчых кніг з такім разлікам, каб не дапусціць недасылкі або, наадварот, лішкаў тых або іншых кніг у раёнах, а таксама арганізаваць дасканалы кантроль за рассылкай гэтых кніг і за своечасовым атрыманнем іх у раёне.

5. Устанавіць цвёрды парадак перадачы журнала і пагаспадарчых кніг у сельсоветы толькі шляхам асабістага ўручэння гэтых кніг сакратарам сельсоветаў з адначасовым іх інструктажам аб парадку запаўнення гэтых кніг. Разлік патрэбнасці кніг для кожнага сельсовета, а таксама раздачу іх і інструктаж вытвараць пад асабістым наглядам сакратара райвыканкома і раённага інспектара Наргасучота.

6. Устанавіць наступны парадак запаўнення журнала № 1 і кніг № 2 і 3 у сельсоветах:

а) да 15-га снежня 1935 г. у кнігах запаўняецца толькі прозвішча, імя і імя па бацьку главы гаспадаркі (у журнал № 1— назва калгаса) і план мясапаставак на 1936 год, а таксама адзнакі аб выкананні гэтага плана ў выпадку, калі гаспадарка здавала ў гэты перыяд мяса ў лік паставак 1936 года;

б) у другой палове снежня сельсоветы праводзяць дасканалы учот усіх гаспадарак сельсоветаў, склада сям'і кожнай гаспадаркі, яе будынкаў і зямлі і гэтыя даныя заносяць у пагаспадарчыя кнігі па становішчу на 1-га студзеня 1936 года ў адпаведнасці з інструкцыяй ЦУНХУ; тады-ж і складаецца канчатковы спіс гаспадарак па форме № 4 і спіс часова пражываючых па форме № 4-а, а таксама заводзіцца кніга № 3-а на не сельска-гаспадарчае насельніцтва;

в) пачынаючы з 1-га студзеня 1936 года сельсовет заносіць у гэтыя кнігі паслядоўна даныя аб наліччы жывёлы на 1-га студзеня, план пасева і фактычны пасеў, абавязацельствы кожнай гаспадаркі (натуральныя, грашовыя і г. д.) у парадку бягучай нармальнай работы сельсовета.

7. Абавязаць раённых і ўчастковых інспектароў Наргасучота арганізаваць дасканалы кантроль за парадкам завядзення пагаспадарчых кніг на 1936 год, прыцягваючы да адказнасці тых старшынь і сакратароў сельсоветаў, якія ўхіляюцца ад завядзення пагаспадарчых кніг або скарыстоўваюць іх не па прызначэнню.

8. Цэнтральнай Учотнай Інспекцыі скончыць перагляд усёй сістэмы сельсовецкага ўчота да 1-га верасня для ўнясення на зацверджанне ў СНК СССР поўнага пераліка і форм первічнага ўчота на 1936 год.

Начальнік ЦУНХУ Дзяржплана СССР *Краваль*

В. а. начальніка Цэнтр. Учотнай
Інпекцыі ЦУНХУ *Моргенштэрн*

---

## Загад № 194

### Па Цэнтральнаму Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Ўчота дзяржплана СССР

*Гор. Масква* *28 ліпеня 1935 г.*

Праверкай, вытваранай Начальнікам сектара Учота насельніцтва і Аховы Здароўя ЦУНХУ Дзяржплана СССР т. Сірко і начальнікам сектара Учота насельніцтва і Аховы здароўя УНХУ РСФСР т. Гурэвіч устаноўлена, што сектар Учота насельніцтва і Аховы Здароўя УНХУ заходняй обласці, асабліва райінспектары Наргасучота, не гледзячы на п. п. 4 і 5 сумеснай дырэктывы ЦУНХУ СССР і ОАГС КНУспраў СССР, разасланай за № 15/18 ад 14 снежня 1934 г. (па РСФСР за № 13/30 ад 17/XII-34 г.) і папярэджанні ЦУНХУ ў пісьме № 15/17 ад 7/V-35 г. (па УНХУ РСФСР № 13/30 ад 2/IV) самаухіліліся ад кантроля за якасць матэрыяла ўчота натуральнага руху насельніцтва і ад нагляду за своечасовасцю і паўнатой збірання другіх экземпляраў актаў грамадзянскага становішча.

Сектар Учота Насельніцтва і Аховы Здароўя УНХУ механічна, без праверкі, прымаў і зводзіў даныя, атрыманыя ад абласнога ОАГС, не інструктаваў райінспектароў Наргасучота і не правяраў іх работу, а раённыя інспектары ў сваю чаргу не давалі ўказанняў участковым інспектарам знаёміцца з якасцю работы па запаўненню актаў сельсоветамі і дапамагаць РайЗАГСУ у своечасовым збіранні другіх экземпляраў актаў ад сельсоветаў.

Акрамя гэтага, абласное УНХУ дапусціла шэраг памылак пры праверцы і апрацоўцы матэрыялаў, атрыманых ад райінспектароў і ад ОАГС заходняй обласці.

Выключна нябрэжнае вядзенне спраў выяўлена у Почынкаўскім раёне (райінспектар Суздалеў) і Смаленскім раёне (райінспектар Каменцаў), якія зусім адхіліліся ад работ па ўчоту натуральнага руху насельніцтва (не вялі нагляду за поўнатой паступлення другіх экземпляраў актаў грамадзянскага становішча, на працягу паўгоддзя не заглядалі ў днеўнікі атрымання актаў, у выніку чаго заставаліся незаўважанымі пропускі ў ну-

мерацыі актаў, падвойная нумерацыя актаў, сістэматычнае спазненне ў прадстаўленні актаў сельсоветамі і г. д.) і ўстранілі ўчастковых інспектароў ад нагляду за своечасовай адсылкай другіх экземпляраў актаў ад сельсоветаў і за якасцю запаўнення сельсоветамі актаў грамадзянскага становішча.

За халатныя адносіны да справы райінспектару Почынкаўскага раёна т. Суздалеву абвясціць суровую вымову. Райінспектару Смаленскага раёна т. Каменцаву (нядаўна працуючаму на гэтай рабоце) паставіць на від.

Начальніка Сектара Насельніцтва і Аховы Здароўя заходняга УНХУ т. Лісоўскага зняць з пасады начальніка сектара як несправіўшагася з гэтай работай.

Указаць Начальніку УНХУ заходняй вобласці т. Васільеву на недапушчальнасць такіх адносін да ўчота натуральнага руху насельніцтва ў абласным УНХУ і райінспектурах.

Прапаную т. Васільеву ў двухмесячны тэрмін правесці суцэльную праверку работы ўсіх райінспектур па ўчоту натуральнага руху насельніцтва і забяспечыць у далейшым бесперабойнае выкананне дырэктыў ЦУНХУ Дзяржплана СССР і УНХУ РСФСР па гэтай рабоце.

Папярэджваю ўсіх начальнікаў УНХУ рэспублік, абласцей і краёў і райінспектароў, што пры выяўленні ў далейшым парушэнняў парадку работ па ўчоту натуральнага руху насельніцтва, устаноўленага ЦУНХУ Дзяржплана СССР, мною будуць прымяняцца стражайшыя меры спагнання ўплоць да прыцягнення да судовай адказнасці.

В. а. Начальніка ЦУНХУ Дзяржплана СССР

*Краваль*

---

## З а г а д № 209

### Па Цэнтральнаму Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Ўчота Дзяржплана Саюза ССР

*Масква* *9 жніўня 1935 года*

З месц паступаюць заявы ўчастковых інспектароў—жалабы на неправільнае звальненне іх раённымі і гарадскімі інспектарамі Наргасучота.

З а г а д в а ю:

1. Забараніць прыём, а таксама звальненне ўчастковых інспектароў Наргасучота без папярэдняга зацверджання Начальнікам край (обл.) УНХУ альбо яго намеснікам.

2. Устанавіць, што раённыя і гарадскія інспектары Наргасучота, самавольна звальняючыя ўчастковых інспектароў, павінны прыцягвацца да адказнасці як за перавышэнне ўласці.

3. Прадставіць раённым інспектарам, у выпадках крайней неабходнасці, права часова адстраняць участковых інспектароў ад работы з тым, што канчатковае рашэнне аб звальненні павінна быць вынесена толькі край (обл.) УНХУ.

Начальнік Цэнтральнага кіраўніцтва Наргасучота
Дзяржплана СССР—*Краваль*

---

## Загад № 216

### Па Цэнтральнаму Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Ўчота Дзяржплана Саюза ССР

*Ад 22 жніўня 1935 года*

Абследваннем становішча работы па вымярэнню ўраджая ільну і зернавых у Беларусі, праведзеным работнікам ЦУНХУ дзяржплана СССР тав. Жывіліным, устаноўлена:

1. Раённыя інспектары работай не кіруюць, у калгасы не выязджаюць, застаўляюць участковых інспектароў, праводзячых вымярэнне, без усякай дапамогі.

Інспектары НГУ Талачынскага і Круглянскага раёнаў, не гледзячы на тое, што знаходзіліся ў раёне, усё-ж не разу не наведалі калгасаў, у якіх праводзіцца вымярэнне ўраджаю.

Інспектар Круглянскага раёна не ведаў аб становішчы работы па вымярэнню ўраджаю ў калгасе „Чырвоны Пахар“, хаця рабоце пагражаў зрыў, бо калгас выцерабіў лён 2 жніўня і да 11 жніўня ўпаўнаважаны па вымярэнню ў калгасе не з'явіўся.

УНХУ БССР замест таго, каб патрабаваць ад інспектароў непасрэднага ўдзелу ў рабоце па вымярэнню ўраджаю, адцягвала іх ад гэтай работы, вызываючы суцэльна па ўсім раёнам раённых інспектароў у Менск для здачы матэрыялаў па ўчоту жывёлы і пасеўных плошчаў тэрмінам на 4 і больш дзён, у прыватнасці ў момант абследвання ў Менску знаходзілася 15 райінспектароў.

2. У выніку адсутнасці кіраўніцтва і безкантрольнасці работы ўпаўнаважаныя зрывалі работу па вымярэнню ўраджаю жыта (Талачынскі і Смалявіцкі раёны); па ільну ў шэрагу выпадкаў работы праводзіліся нядбайна як у частцы хавання адабраных снапоў, так і сканчэнне першай стадыі апрацоўкі ільну, адабраныя снапы звальваліся ў кучу без усякага парадку (калгас імя Будзёнага Крупскага раёна, упаўнаважаны па вымярэнню—участковы інспектар т. Бурмацкі).

У калгасе „Большэвік“ таго-ж раёна ўпаўнаважаны па вымярэнню ўраджаю льна ўчастковы інспектар тав. Ермаловіч расставіў снапы для прасушкі на траве, парушыўшы гэтым інструкцыйныя ўказанні аб правядзенні сушкі на дасканала ачышча-

ным ад травы месцы (на таку) пад навесам. Пры аглядзе выяўлена значная частка галовак, адбітых ад сцяблоў і лежачых на траве, у выніку—ураджай насення льну па вымярэнню будзе яўна зніжаным і работа ў гэтай частцы сарвана.

Не скарыстоўваюцца спрыяючыя кліматычныя ўмовы, якія ўстанавіліся за апошні час, для заканчэння першай стадыі работы. У тым-жа калгасе „Большэвік" упаўнаважаны па вымярэнню з калгаса адлучыўся хаця лён быў упаўне гатоў для абмалота насення і рассціла.

Для знішчэння ўстаноўленых ненармальнасцей у рабоце прапаную:

1. Усім раённым інспектарам абавязкова праверыць работу па вымярэнню ва ўсіх калгасах. Зрыў работы буду разглядаць як невыкананне аднаго з важнейшых дзяржаўных заданняў.

За адсутнасць кіраўніцтва работамі па вымярэнню ўраджаю абвяшчаю вымову райінспектарам: Крупскага раёна—тав. Якуцік, Талачынскага раёна—тав. Максімовіч і Круглянскага раёна—тав. Шепелевіч.

2. Праводзіць работу па вымярэнню ў суровай адпаведнасці з указаннямі інструкцыі і оргплана. Усе выпадкі адхілення ад інструкцыі павінны рашуча прасякацца; на ўпаўнаважаных і райінспектароў, сарваўшых вымярэнне, накладаць адміністрацыйныя спагнанні ўплоць да аддачы пад суд.

3. Указваю начальніку УНХУ БССР тав. Владзімірскаму на чрэзмерную працягласць затрымкі інспектароў пры здачы матэрыяла па ўчоту жывёлы і пасеўных плошчаў у Менску і на недапушчальнасць дазвола водпуска начальніку Сельска-Гаспадарчага Сектара тав. Арцёмкаву ў перыяд разгара работ па сельскай гаспадарцы.

Начальнік Цэнтральнага Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Учота Дзяржплана СССР *Краваль*

---

## Загад

## Па Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Ўчота БССР

*Ад 29/VII-1935 г.*

§ 1.

Распараджэннем Намесніка Начальніка Кіраўніцтва тав. Кацнельсона ад 17-га мая г. г. было даручана групе райінспектур вытварыць праверку пастаноўкі первічнай дакументацыі і складання справаздачных картак па труду па раду прадпрыемстваў, соўгасаў, будаўніцтв, праінструкціраваць учотных работнікаў гэтых аб'ектаў і прыняць меры да ліквідацыі ўстаноўленых у працэсе праверкі недахопаў. Гэтую работу здавальняюча

выканалі інспектуры: Лоеўская, Копыльская, Гомельская, Магілеўская. Фармальна аднесліся да праверкі, у выніку чаго работа зроблена нездавальняючы, інспектуры: Смолевічская, Чашніцкая, Касцюковіцкая, а Полацкая, Горацкая і Рэчыцкая інспектуры нават і не прыступілі да гэтай праверкі.

Інспектары, якія аднесліся фармальна да праверкі, а таксама і тыя, якія зусім не прыступілі да яе, не зразумелі асноўнай задачы, што барацьба за верную лічбу пачынаецца непасрэдна з учота работы ад самага рабочага месца і іменна таму ад правільнай пастаноўкі первічнай дакументацыі залежыць у значнай ступені і правільнае складанне справаздачных картак і правільнасць дальнейшых лічб, атрымоўваемых у выніку распрацоўкі справаздачных картак.

§ 2.

У мэтах узмацнення барацьбы за верную лічбу і палепшання якасці ўчота труда абавязваю ўсіх райінспектароў, у строгай адпаведнасці з указаннямі сектару ўчота працы, праводзіць сістэматычную праверку пастаноўкі первічнай справаздачнасці па труду і інструктаж учотных работнікаў прадпрыемстваў, будаўніцтв і соўгасаў.

Асоб злосна парушаючых устаноўленую сістэму і прадстаўляючых неправільныя лічбы—прыцягваць да адказнасці ў адпаведнасці з існуючым законадаўствам.

Аб усіх выпадках прыцягнення да адказнасці неадкладна паведамляць у Кіраўніцтва.

Начальнік Кіраўніцтва Наргасучота БССР *Владзімірскі.*

---

## Загад № 179
## Па Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Ўчота БССР

*ад 1-га жніўня 1935 года*

Указаннямі аб парадку збірання і прадстаўлення матэрыялаў натуральнага руху насельніцтва КНГУ БССР умяніла ў абавязак райінспектароў сачыць за паўнатой і якасцю запаўнення актаў грамадзянскага становішча, праводзячы перыядычна, па ўзгадненню з райаддзелам НКВД, праверку пастаноўкі гэтага ўчота і інструктаж сакратароў сельсоветаў у адносіне вядзення запісаў актаў грамадзянскага становішча, а таксама прытрымлівацца устаноўленых тэрмінаў прадстаўлення матэрыялаў. Аднак, справа ўчота натуральнага руху насельніцтва не ва ўсіх інспектурах знаходзіцца на належнай вышыні. Камарынская інспектура (інспектар т. Сакалоўскі) не гледзячы на напамінкі Кіраўніцтва зусім не прадставіў кан'юнктуры па натуральнаму руху насельніцтва ні за адзін месяц.

Полацкая, Ветрынская, Багушэўская, Дубровенская і Капатковіцкая інспектуры не прадставілі матэрыялаў з мая месяца.

У Барысаўскай інспектуры, як выяўлена работнікам сектара насельніцтва і аховы здароўя, не вядуцца „дзеўнікі" для запісаў актаў грамадзянскага становішча.

За халатныя адносіны да справы бягучага ўчота натуральнага руху насельніцтва інспектару Камарынскага раёна т. Сакалоўскаму стаўлю на від.

Папярэджваю ўсіх райінспектароў, што за малейшае парушэнне парадка вядзення і прадстаўлення матэрыялаў па натуральнаму руху насельніцтва, а таксама механічнай перасылкі ў Кіраўніцтва атрымоўваемай ад райаддзела НКВД зводкі ф. № 97 без праверкі яе, мною будуць прыняты стражайшыя меры ўзыскання.

Начальнік Кіраўніцтва Наргасучота БССР
*Владзімірскі.*

---

## Загад № 400

### Па Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Ўчота БССР

*ад 20 жніўня 1935 года.*

Тэрмін прадстаўлення кан'юнктурных даных па механічнаму руху насельніцтва ўстаноўлен КНГУ — 10-га чысла кожнага месяца. У цэлым шэрагу інспектур гэтай рабоце не ўдзеляецца дастатковай увагі, у выніку чаго ў беларускую зводку штомесячна уключаюцца не ўсе раёны БССР.

Выключна безабразнае становішча з учотам механічнага руху насельніцтва наглядаецца ў Асіпавіцкай інспектуры (інспектар т. Аксельрод), ад якой матэрыял не паступае з мая месяца і назат няма адказаў на ўказанні сектара насельніцтва і аховы здароўя аб прадстаўленні гэтага матэрыяла, а таксама ў Дрысенскай (т. Чыжэўскі), Лепельскай (Бушанава), Чавускай (Мільцын), не прадставіўшых гэты матэрыял на працягу 2-х месяцаў.

За зрыў работы па механічнаму руху насельніцтва інспектару Асіпавіцкага раёна т. Аксельроду аб'яўляю вымову.

Папярэджваю ўсіх райінспектароў, што за зрыў прадстаўлення кан'юнктурных даных па механічнаму руху насельніцтва мною будуць прымацца стражайшыя меры спагнання.

Начальнік кіраўніцтва Наргасучота БССР
*Владзімірскі.*

---

БССР
Верхсуд
28/VIII

## Народнаму суддзі Ветрынскага раёна т. Апалька.

*Копія: Усім раённым нарсудам.*

*Копія: Упраўленню Нар. Гас. Учота БССР.*

Па паведамленню Упраўлення НГУ БССР Вамі разаслана ўсім старшыням сельсоветаў В. раёна адносіна з патрабаваннем:

а) тэрмінова скласці і выслаць вам спісы членаў усіх існуючых калгасных таварысцкіх судоў, па кожнаму калгасу паасобна, па прыкладзенай форме;

б) абраць калгасныя суды ў тых калгасах, дзе іх яшчэ няма і выслаць па гэтых нанава-абраных судах такія-ж спісы.

Паведамляем, што згодна існуючых законаў (паст. СНК СССР ад 27/IV-34 г., № 980, З.З. і Р.СССР 1934 г. № 24, § 189 і др.) новыя формы адчотнасці і ўчота для сельсоветаў могуць быць уведзены толькі з зацверджання ЦУНХУ СССР пастановай СНК СССР. У віду гэтага прапануем ваша патрабаванне аб дасылцы сельсоветамі спісаў членаў калгасных судоў, як незаконнае, і форму гэтага спіса зараз-жа адмяніць; у далейшым ні ў якім разе не дапушчаць патрабавання якіх-бы то ні было звестак па формах, не зацверджаных ЦУНХУ СССР, як ад сельсоветаў, так і непасрэдна ад секцый рэв. законнасці калгасаў, ці ад грамадскіх судоў.

Арганізацыя абрання калгасных судоў шляхам цыркулярнай прапановы аб правядзенні гэтай работы сельскімі советамі з'яўляецца, у сваю чаргу, бюракратычным скажэннем і перакладаннем сваей работы нарсуда на сельсоветы. Арганізацыя і кіраўніцтва грамадскімі судамі—прамы абавязак народных суддзяў, якія павінны ажыццяўляць гэтую работу непасрэдна, пад кіраўніцтвам РВК і РК КП(б) Б і ў цесным кантакце і пры дапамозе секцый рэволюцыйнай законнасці. Выбары грам. суда павінны ў кожным паасобным выпадку праводзіцца непасрэдна нарсуддзей, ці другім работнікам юстыцыі па даручэнню нарсуддзі, ці ў выпадку немагчымасці прысутнічання на выбарах каго-небудзь з работнікаў юстыцыі,—секцыяй рэволюцыйнай законнасці совета; прычым секцыя павінна быць папярэдне праінструктавана—або пры асабістым яе наведванні суддзей або на склікаемай, з дазвола кіруючых органаў раёна, раённай ці куставой нарадзе грам. актыва суд. органаў. Пры асабістым наведванні суддзей ці другім работнікам юстыцыі секцыі рэв. законнасці або грамадскага суда, могуць быць сабраны ўсе тыя звесткі, якія неабходны суду і прадстаўленне якіх не ўстаноўлена пастановай СНК СССР.

Старшыня Верхсуда БССР—Кудзельскі

# II. РАБОТА КНГУ І ЯГО СІСТЭМЫ

## За верную і своечасовую лічбу

Арганізаваная сектарам учота працы сістэматычная праверка становішча ўчота і справаздачнасці па труду—ускрыла рад буйных недахопаў у гэтай справаздачнасці ў паасобных прадпрыемствах, соўгасах і нават трэстах.

Вынікі праверкі яшчэ раз падкрэсліваюць неабходнасць сістэматычнага, а не кампанейскага інструктажа інспектурамі Наргасучота—работнікаў прадпрыемстваў, соўгасаў і трэстаў па правільнай арганізацыі нізавога ўчота і складання справаздачных картак (1, 1-а, 6, 6-а, 4).

Некаторыя інспектуры (Гомель, Віцебск, Старыя Дарогі) у працэсе праверкі ўстанавілі рад грубейшых скажэнняў у справаздачнасці па труду і зрабілі з гэтага факта правільныя вывады.

Гэта асабліва важна ў звязку з тым, што рад нашых інспектур, як гэта ўжо адзначалася ў загадзе па Кіраўніцтву, недаацанілі ўсей важнасці сістэматычнай праверкі і аднесліся да яе фармальна.

З актаў відаць, што т. т., правяраўшыя пастаноўку справаздачнасці, не верылі на слова і падверглі дэталёвай крытыцы як пастаноўку ўчота, гэтак і якасць справаздачных даных; устанавіўшы недахопы, падрабязна растлумачылі работнікам прадпрыемстваў, соўгасаў, трэстаў сутнасць памылак і тут жа паказалі, як гэтыя памылкі выправіць.

Апрача таго, устаноўлен тэрмін, на працягу якога заўважаныя недахопы павінны быць ліквідаваны. Прыводзім некаторыя вытрымкі з актаў:

„2. Якасна карткі запаўняюцца нездавальняюча:

а) не заўсёды ёсць увязка паміж колькасцю персанала, паказанага на канец аднаго м-ца і на пачатак другога“.

Адзначаючы гэты факт, абследвацелі не абмяжоўваюцца голай канстатацыяй, а падмацоўваюць гэта наступным прыкладам:

| Назва соўгасаў | На канец мая | | На пачатак чэрвеня | |
|---|---|---|---|---|
| | Сталых рабочых | Часовых і сезонных | Сталых рабочых | Часовых і сезонных |
| Соўгас „Ліпава“ . | 91,9 | 20,3 | 93 | 40 |
| „ „Пціч“ . . | 6 | 4 | 6 | 10 |

Зусім незразумела наяўнасць рабочых на 1|VI па соўгасу „Ліпава“ і г. д.

б) амаль ва ўсіх соўгасах, за рэдкім выключэннем, неправільна паказан абарот рабочых. Бачна, што лічбы ў гр. 1-й ці 2-й падзела VII прастаўляюцца ў залежнасці ад таго, якая з граф 3-я ці 4-я падзела V—больш і прыводзяцца таксама прыклады. Затым абследвацелі даюць інструктыўныя паказанні па ўстаноўленым недахопам, у прыватнасці „аб парадку вылічэння сярэднесьпісачнага ліка рабочых—шляхам падліка па табелям штодзённага ліка рабочых за м-ц і дзялення яго на колькасць календарных дзён м-ца, аб фактычным падліку колькасці прынятых і звоrange па даным стала асабовага склада“ і г. д. і ў заключэнні вызначаюць рад мерапрыемстваў па ліквідацыі недахопаў і папярэджанню іх у далейшай рабоце.

(З акта праверкі запаўнення карткі № 6 па соўгасам Гомельскага Молпрамтрэста).

Якасць праверкі, вытваранай нашай Віцебскай інспектурай, аднолькавая, але мае свае перавагі ў тым, што побач з устанаўленнем недахопаў устанаўлівае і канкрэтных людзей, па віне якіх дапушчаны памылкі. У акце па абследванню запаўнення карткі № 6 па соўгасам Віцебскага Молпрамтрэста так запісана:

„Асобна адзначаем, што кіруючыя работнікі трэста па гэтай галіне, т. т. Кошка і Патапава павярхова і механічна кантраліруюць матэрыял, не аналізуючы яго“.

Старадароская інспектура, правяраючы пастаноўку ўчота і запаўнення справаздачных картак № 1-а устанавіла, што „табелі ўчота явак і неявак на работу складаюцца не ў цэхах, а ў канторы і яўкі і неяўкі адзначаюцца не штодзённа, а вельмі часта ў канцы м-ца“ і г. д. Учот руху рабсілы (прыбыла—убыла) не вядзецца. Бесплатныя комунальныя услугі зусім не улічваюцца. Неправільна апрадзяляецца група ІТР. Паказаўшы на гэтыя і яшчэ рад недахопаў у складанні карткі № 1-а абследвацель прапануе між іншым наступнае:

„а) табелі явак і неявак на работу весці акуратна, рабіць адзнакі штодзённа, пры гэтым табелі павінны абавязкова падпісвацца асобай, адказнай за правільнасць учота явак і неявак па табелям“.

Тут-жа паказана на каго ўскладаецца выкананне гэтага пункта і тэрмін.

Можна было прывесці яшчэ шмат прыкладаў з памянёных вышэй актаў праверкі. Але і гэтых хопіць для таго, каб усе т. т. пераканаліся ў тым, што сістэматычная праверка пастаноўкі нізавога ўчота і запаўнення справаздачных картак па труду „і аказанне дапамогі ў выпраўленні недахопаў з'яўляецца неад'емлемай задачай кожнай райінспектуры, без якой немысліма палепшыць якасць справаздачных даных г. зн. неабходна паспяховая барацьба за лічбу верную і своечасовую. Гэта трэба памятаваць

тым інспектурам, якія да гэтай справы аднесліся абы-як і асабліва тым, якія справу налажвання ўчота лічаць справай другараднай.

Быць не толькі перадатачнай інстанцыяй, але актыўна уздзейнічаць на арганізацыю справы ўчота і палепшання якасці і своечасовасці спраздачных даных — задачы райінспектуры Наргасучота.

Дабіцца-ж гэтага можна шляхам сістэматычнага кантроля і аналіза як саміх справаздачных даных, гэтак і шляхоў, па якім фарміруюцца гэтыя даныя.

Гэтым шляхам райінспектуры атрымаюць поўную магчымасць канкрэтна і своечасова дапамагчы раённым партыйным і савецкім арганізацыям у ажыццяўленні нашай агульнай задачы— соцыялістычнага будаўніцтва і да гэтага мы заклікаем усіх работнікаў раённых інспектур.

*С. Шындлер.*

---

## Не паўтараць памылак пры ўчоце пасеўных плошчаў

У чэрвені—ліпені месяцах гэтага года органамі Наргасучота упершыню праводзілася работа па ўчоту пасеўных плошчаў. Амаль ва ўсіх раёнах у арганізацыі і правядзенні гэтай работы выяўлен шэраг буйных недахопаў, якія вельмі адбіліся на своечасовасці і якасці гэтай работы. Галоўнейшымі недахопамі ў гэтай рабоце трэба лічыць:

а) няпоўнае забеспячэнне калгасаў і сельсоветаў з боку Райза бланкамі форм для ўчота пасеўных плошчаў, у выніку чаго атрымалася тое, што заключныя справаздачы ад калгасаў паступалі толькі ў адным экземпляры (у Райза альбо ў райінспектуру), а сельсоветы давалі матэрыял не на бланках ф. №17-а і 17-б, а на кавалках паперы;

б) вельмі дрэннае правядзенне Райземаддзелам і райінспектурай Наргасучота інструктажа работнікаў калгасаў і сельсоветаў аб парадку і тэрмінах правядзення работы па ўчоту пасеўных плошчаў, у прыватнасці не было дагаворанасці адносна ўчота азімых пасеваў уноў уступіўшых калгаснікаў, якія гэтых пасеваў не абагулілі, у выніку чаго атрымалася тое, што значная плошча азімых пасеваў уноў прыліўшыхся калгаснікаў заставалася не ахопленай учотам (калгасы не паказалі гэтай плошчы ў сваіх заключных справаздачах, а сельсоветы таксама не паказалі іх па спісу ф. №17-а) і таму потым прыходзілася рабіць вялікую работу па давыяўленню гэтых плошчаў у сельсоветах і калгасах, што вельмі зацягнула сканчэнне ў раёнах усей работы па ўчоту пасеўных плошчаў (Брагінскі і іншыя раёны);

в) меўшая месца ў большасці раёнаў недаацэнка ўсей важнасці, своечасовага і добраякаснага правядзення работ па ўчоту пасеўных плошчаў як з боку раённых і ўчастковых інспектароў Наргасучота, так і з боку саміх Райвыканкомаў і сельсоветаў, у выніку чаго работа гэта была пушчана на самацёк, быў прапушчан найбольш спрыяючы момант для правядзення гэтай работы ( да поўнага разгортвання работ па падатковаму ўчоту аб'ектаў абкладання), спісы па ф. №17-а і 17-б былі складзены сельсоветамі нядбайна і без распісак домагаспадароў, пытанне аб пасеўных плошчах не было абгаворана на агульных сходах паселішч і на прэзідыумах сельсоветаў.

г) Нраздольнасць, а часамі і нежаданне, некаторых участковых інспектароў забяспечыць належную праверку і прыёмку ад сельсоветаў матэрыялаў па ўчоту пасеўных плошчаў, у выніку чаго самой райінспектуры ( і асабіста райінспектару) прыходзілася выконваць тую работу, якую павінны былі зрабіць участковыя інспектары (праверка матэрыялаў сельсоветаў і складанне сельсовецкіх зводак) альбо сельсоветы (падбіўка ітогаў у спісах ф. №-17а і 17-б).

Маючы на ўвазе, што такое становішча ў справе ўчота пасеўных плошчаў з'яўляецца зусім недапушчальным, усім раённым і ўчастковым інспектарам Наргасучота неабходна добра вывучыць і ўлічыць усе паказаныя вышэй недахопы з тым, каб не дапусціць іх у далейшым.

Учот пасеўных плошчаў, як і іншыя буйныя работы, павінен праводзіцца своечасова і добраякасна.

*К. Буйко*

---

## Дынамічнае абследванне калгасаў за 1933 і 1934 г г.

З мэтай сістэматычнага наглядання за дынамікай гаспадарчага і фінансавага становішча калгасаў і кантроля правільнасці складання гадавых справаздач, пачынаючы з 1935 года ўстаноўлена сталая сетка калгасаў (у ліку 550), у якіх на працягу цэлага рада год будуць вытварацца ўчотна-выбарачныя работы.

Задачай выбарачнага дынамічнага абследвання ў гэтым, 1935 г., акрамя кантроля гадавой справаздачы за 1934 г., з'яўляецца—высвятліць дынаміку 1933 і 1934 г.г. па наступных пытаннях:

1. Даць асноўныя паказчыкі вытворчай характарыстыкі калгасаў размер і вытворчы напрамак гаспадаркі, налічэнне працадзён і размеркаванне іх па галінам і інш.).

2. Вытворчае абслугоўванне МТС і процант механізацыі галоўнейшых сельска-гаспадарчых работ.

3. Размеры фактычна запрыходаванага ўраджаю ўсіх культур і размеркаванне валавога збора зернавых і бульбы.

4. Фінансавае становішча калгасаў (размер і склад грашовых паступленняў і выдаткаў, непадзельныя фанды і пазыковыя сродкі).

Абследванне вытвараецца выбарачным парадкам ва ўсіх раёнах БССР. Колькасць калгасаў па кожнаму раёну хістаецца ад 1 да 12-ці, у залежнасці ад агульнага ліку калгасаў, а таксама ад штата райінспектуры. Уся работа праводзіцца шляхам непасрэднага запаўнення ўсяго інструментарыя ў калгасе з першапачатковай дакументацыі работнікам Наргасучота (участковым інспектарам).

У маі м-цы 1935 г. былі праведзены 10-ці дзенныя курсы па падрыхтоўцы участковых і раённых інспектароў, на якіх (курсах) значную частку ўсяго навучальнага часу займала вывучэнне інструментарыя дынамічнага абследвання калгасаў. Усю праграму, як тэорэтычна, так і практычна на курсах работнікі раённага апарата Наргасучота прапрацавалі добра, але на справе мы маем шмат адмоўных бакоў, якія патрэбна добра вывучыць, каб яны пры правядзенні гэтай работы ў наступных гадах не паўтараліся.

1. Шмат райінспектароў не праводзілі практычнага інструктажа ўчастковых інспектароў у адным з адабраных калгасаў, а матэрыял складаўся ўчастковымі інспектарамі без усялякай дапамогі з боку райінспектароў.

2. Ёсць выпадкі калі райінспектар, зусім не праверыўшы складзены ўчастковым інспектарам матэрыял падпісваў яго, інакш кажучы штампаваў тую работу ўчастковага інспектара, якая была зроблена зусім нядбайна (Лоеў—т. Бацяноўскі, Клічаў—т. Ладуцько, Гарадок—т. Аўдзей, Барысаў—т. Кулікаў, Бягомля і інш.).

3. Не была своечасова завострана ўвага з боку райінспектароў на недапушчальнасць такога з'явішча, калі ўчастковыя інспектары механічна, без усялякай праверкі, выкапіроўвалі даныя гадавой справаздачы 1933 г. на бланк дынамікі, у выніку чаго здарылася, што ў некаторых бланках дынамікі па аднаму і таму-ж кругу паказчыкаў у паасобных табліцах паказаны розныя даныя (Плешчаніцы, Бабруйск, Расоны і Добруш).

4. Яшчэ больш нецярпіма, калі ўчасткові інспектар Добрушскага раёна т. Калінін увесь бланк дынамікі склаў простай перапіскай даных з гадавых справаздач за 1933 і 1934 г г., за што начальнікам КНГУ т. Калініну абвешчана вымова.

5. У справе выканання гэтай работы ў тэрмін, па паўнаце матэрыяла і па якасці патрэбна адзначыць наступныя раёны: Ельск, Старыя Дарогі, Карма. Па якасці таксама патрэбна адзначыць Рэчыцкую і Гомельскую райінспектуры, але матэрыял імі прадстаўлен з вялікім спазненнем.

6. Непоўнасцю выканалі работу: Гарадок, Дрыса, Дуброўна, Лепель, Сіроціна, Віцебск, Менск (раён), Кіраўск, Терахоўка, Чачэрск, Чэрвень, Лельчыцы, Парычы і Петрыкаў.

